**НЕЗАБЫЎНЫ 1812-ы**

# У АРЭОЛЕ НЕЎМІРУЧАЙ СЛАВЫ

Савецкі народ з павагай адносіцца да гераічных подзвігаў сваіх продкаў у барацьбе супраць чужаземных захопнікаў. Сярод гэтых подзвігаў у арэоле неўміручай славы паўстаюць падзеі Айчыннай вайны 1812 года.

Велізарная армія стаўленіка рэакцыйнай французскай буржуазіі Напалеона вераломна, без аб'яўлення вайны, уварвалася на тэрыторыю Расіі. Захопнікі хацелі заваяваць нашу краіну, пазбавіць яе нацыянальнай незалежнасці, ператварыць яе ў прыдатак буржуазнай Францыі. Яны былі ўпэўнены ў перамозе, бо ім ужо ўдалося заняволіць усе буйнейшыя краіны еўрапейскага кантынента. Да таго ж працяглыя войны пачатку XIX стагоддзя аслабілі Расію, якая не мела саюзнікаў, і супраць 640-тысячнай арміі Напалеона здолела сканцэнтраваць на сваіх заходніх рубяжах толькі 218 тысяч салдат.

Пад грукат баявых барабанаў «вялікая армія» ўпэўнена рушыла ў глыбіню Расіі. Бронзавыя арлы сядзелі на дрэўках сцягаў над стракатымі палкамі французскай, аўстрыйскай, прускай, баварскай, саксонскай, партугальскай конніцы і пяхоты. Сытыя коні цягнулі 1.400 гармат. Рыпелі цяжкія вазы, гружаныя боепрыпасамі...

А праз пяць месяцаў за заходнюю мяжу Расіі выйшлі толькі разрозненыя групы змучаных, знясіленых галодных салдат — усяго некалькі тысяч чалавек. Гэта было ўсё, што засталося ад «вялікай арміі». Напалеон, які лічыў сябе непераможным палкаводцам і прэтэндаваў на панаванне над усім светам, пераапрануўшыся ў адзенне простага афіцэра, яшчэ раней уцёк у Францыю, пакінуўшы ў Расіі і сваю славу, і свае паперы, і нарабаванае багацце.

Ваколіцы Смаленска і Вязьмы, Барадзінскае поле, пералескі каля Малаяраслаўца, старая Смаленская дарога, аснежаныя палі пад Барысавам і хвалі Бярэзіны сталі могілкамі для захопнікаў, якія незадоўга перад тым пераможна маршыравалі па краінах Еўропы.

Многія сучаснікі тых падзей, многія буржуазныя гісторыкі пазнейшых часоў не маглі зразумець, якая сіла перамагла непераможную дагэтуль «вялікую армію», не маглі растлумачыць, як здарылася, што аслабленая прыгонніцкая Расія ва ўмовах абвостраных класавых супярэчнасцей не толькі адстаяла сваю незалежнасць, ушчэнт разграміўшы ворага, але і здолела вызваліць з напалеонаўскага ярма народы Еўропы.

Розныя тлумачэнні, у тым ліку і такое, што быццам бы напалеонаўскую армію загубілі маразы, былі далёкімі ад гістарычнай праўды.

Гістарычную праўду ў поўнай меры аднавіла савецкая гістарычная навука. Яна паказала сапраўднага героя неўміручай эпапеі 1812 года. Гэты герой — народ.

Народ узняўся на справядлівую Айчынную вайну супраць чужаземных захопнікаў. Непераможная сіла народа, яго самаадданая барацьба, яго палымяная любоў да радзімы дазволіла пераадолець надзвычайныя цяжкасці і поўнасцю разграміць ворага. Воля народа прымусіла цара насуперак яго ўласнаму жаданню паставіць на чале рускіх войск М. І. Кутузава. Выдатны палкаводзец і вопытны дзяржаўны дзеяч, ён добра разумеў народны характар вайны, верыў, што народ непераможны і ўдала накіроўваў усе патрыятычныя намаганні народных мас у рэчышча перамогі.

Рашаючая роля ў разгроме ворага належыць рускаму народу, які прыняў на сябе асноўны цяжар барацьбы. Але ў Айчыннай вайне 1812 года з вялікай сілай праявілася баявая садружнасць многіх народаў Расіі. У гэтай садружнасці разам з рускім народам супраць агульнага ворага змагаўся і беларускі народ.

Свае першыя ўдары напалеонаўскія захопнікі абрушылі на Беларусь. Яна з самага пачатку вайны стала арэнай жорсткіх баёў. Французскія войскі рабавалі гарады і вёскі, катавалі і забівалі мірных жыхароў. Адзін з сучаснікаў так апісваў бясчынствы захопнікаў у Віцебску і яго ваколіцах: «Палаючыя навокал вёскі і прадмесці горада, вуліцы, усланыя раненымі і мёртвымі, палі, пакрытыя многімі тысячамі трупаў, грабяжы і гвалты ў горадзе і на вёсках, забойствы бяззбройных у іх дамах...»

Беларускі народ не пажадаў заставацца пад ярмом напалеонаўскіх захопнікаў, разам з рускім народам і іншымі народамі Расіі ён змагаўся супраць агульнага ворага.

Жыхары беларускіх гарадоў і вёсак пры набліжэнні ворага знішчалі пасевы і, нічога не пакідаючы захопнікам, хаваліся па лясах. У першыя ж тыдні вайны на Беларусі пачалі дзейнічаць партызанскія атрады. Яны нападалі на варожыя патрулі, знішчалі фуражыраў, грамілі абозы праціўніка.

Адзін з напалеонаўскіх генералаў пісаў, што ў Віцебску «каб здабыць харчаванне, прыходзілася пасылаць коней за дзесяць — дванаццаць льё ад горада. Жыхары, якія засталіся, усе ўзброіліся, ніякіх транспартных сродкаў нельга было знайсці».

Многія палкі і дывізіі рускай арміі былі сфарміраваны на тэрыторыі Беларусі і амаль поўнасцю складаліся з беларусаў. Сфарміраваныя на Віцебшчыне, чатыры палкі 3-й пяхотнай дывізіі на Барадзінскім полі абаранялі славутыя «Баграціёнавы флешы», адбіваючы атакі ворагаў, як сведчаць афіцыйныя данясенні, «з адчайнай мужнасцю». 24-я дывізія, якая складалася з сялян Мінскай губерні, з выключным гераізмам змагалася ў цэнтры пазіцыі рускіх войск каля «батарэй Раеўскага». Салдаты-беларусы разам са сваімі рускімі братамі грамілі напалеонаўскіх захопнікаў і ў Барадзінскай бітве, і ў іншых баях.

У час контрнаступлення рускай арміі беларускія партызаны ўзмацнілі свае ўдары па ворагу. Супраць напалеонаўскіх захопнікаў змагаліся і сяляне вёскі Вараньki на Віцебшчыне, і сяляне вёсак Смалявічы, Маканы, Кляўкі, Старасёлы на Барысаўшчыне. Баявую дзейнасць сялян-партызан вёскі Жарцы на Полаччыне адзначыў Барклай дэ Толі. Насельніцтва Магілёўскай губерні за сваю патрыятычную дзейнасць заслужыла падзяку М. І. Кутузава.

У час суровых выпрабаванняў беларускі народ, як і заўсёды, быў разам з рускім народам. Сумесная барацьба супраць агульных ворагаў яшчэ больш узмацняла цесныя сувязі народаў-братоў.

Гэтая барацьба скончылася поўным крахам захопніцкіх планаў французскай рэакцыйнай буржуазіі і разгромам напалеонаўскай імперыі.

Савецкі народ, адзначаючы 150-годдзе неўміручага подзвігу сваіх продкаў, ганарыцца іх бліскучай перамогай, якая складае адну са слаўных старонак гісторыі нашай Радзімы.

Гэты подзвіг з'яўляецца наглядным урокам і перасцярогай усім тым, хто ў нашы дні імкнецца развязаць новую захопніцкую вайну.

Не раз прэтэндэнты на панаванне над светам, падымаючы зброю супраць нашай Радзімы, спрабавалі выправіць «памылкі» сваіх папярэднікаў. Але яны заўсёды сустракалі непераадольную сілу народаў-братоў, якія на чале з вялікім рускім народам давалі захопнікам сакрушальны адпор. Спроба гітлераўскіх захопнікаў устанавіць сваё панаванне над светам таксама скончылася поўным праваламі разгромам агрэсараў.

У нашы дні ролю прэтэндэнтаў на панаванне над светам узялі на сябе рэакцыйныя імперыялістычныя колы ЗША. Забыўшыся пра ўрокі гісторыі, яны ствараюць агрэсіўныя блокі з мэтай развязаць захопніцкую вайну супраць Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін.

150 год таму назад наш народ, прыгнечаны самаўладствам і памешчыкамі, ва ўмовах адсталай прыгонніцкай Расіі перамог магутнага ворага, калі той зрабіў спробу заняволіць яго.

Але ж хіба можна параўнаць прыгонніцкія часы з нашай сучаснасцю!

Вызваленыя Вялікім Кастрычнікам ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, народы нашай краіны стварылі магутнейшую дзяржаву і пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі паспяхова ажыццяўляюць велічную праграму будаўніцтва камуністычнага грамадства.

У сваёй мірнай творчай працы савецкі народ дасягнуў сусветна-гістарычных поспехаў, паказаўшы чалавецтву, што магчымасці людзей, вызваленых ад капіталістычнага прыгнёту, бязмежныя. Мірная творчая праца савецкага народа сустракае падтрымку ўсіх сумленных людзей свету. Новым прэтэндэнтам на панаванне над светам трэба зразумець, што вырашаць лёс народаў будуць не яны. Спробы развязаць новую захопніцкую вайну прынясуць агрэсарам толькі пагібель.

**Л. АБЕЦАДАРСКІ,**
**загадчык кафедры гісторыі БССР БДУ імя Ул. І. Леніна.**

# З ПРАЦОЎНАЙ ПЕРАМОГАЙ!

Усю дарогу ішоў дождж. Зямля размякла, нібы той кісель. І гняды ледзь цягнуў воз. Можна было перачакаць дождж пад кашлатымі ялінамі. Ды гэта не ў характары Міхася Пракаповіча. У калгасным клубе яго чакаюць гледачы. 30 гадоў працуе ён кінамеханікам і за гэты час ні разу не падвёў сваіх гледачоў.

Да клуба ён дабраўся мокры да ніткі, але, як заўжды, бадзёры і вясёлы. Хутка пераматаў кінастужкі, зарадзіў апараты. У вызначаны час сеанс пачаўся.

Умелы прапагандыст карцін, ён здолеў выхаваць у калгаснікаў любоў да сельскагаспадарчых фільмаў. Неяк ён дэманстраваў фільм аб прапашной сістэме. У клуб у гэты вечар прыйшло вельмі мала калгаснікаў.

— У чым справа? — занепакоіўся кінамеханік.

— Мы пра гэта ў газетах чыталі, — заявіў Іван Новік.

Тады М. Пракаповіч вырашыў дзейнічаць інакш. Ён пабываў у раённай бібліятэцы. Праз некалькі дзён у калгасным клубе адбылася канферэнцыя чытачоў на тэму «Прапашной сістэме — шырокую дарогу», на якой выступілі старшыня калгаса А. Хініч, загадчык раённай аграхімічнай лабараторыі О. Простак, старшыня раённага аддзялення Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў Л. Марціновіч і іншыя. Калгаснікам спадабаўся такі вечар, і яны папрасілі паказаць ім на гэтую тэму фільм. Кінамеханік выканаў іх просьбу.

У вёсцы Паварчыцы, дзе працуе М. Пракаповіч, пастаўлены рэкламныя шчыткі, на якіх рэгулярна вывешваюцца афішы. Кінамеханік клапоціцца аб тым, каб былі кароткія анатацыі на той ці іншы фільм. Апаратура, як правіла, працуе ў яго бездакорна. Нават капітальны рамонт апаратуры М. Пракаповіч робіць сам.

У кінамеханіка заўсёды знаходзяцца памочнікі. Ужо другі год нештатным кантралёрам працуе вучаніца Люба Пракаповіч. Дзяўчына заслужыла павагу гледачоў.

Цяжка расказаць у гэтых радках пра ўсё тое, што робіцца на стацыянары. Нядаўна кінамеханіку Міхасю Цітавічу Пракаповічу прысвоена званне ўдарніка камуністычнай працы. У той дзень ён даў слова: за дзевяць месяцаў выканаць гадавы план. І сваё слова стрымаў. 45-ю гадавіну Кастрычніка ветэран сельскага кіно сустрэў дастойна: 1-га кастрычніка М. Пракаповіч выканаў гадавы план.

За дасягнутыя поспехі яму ўручаны каштоўны падарунак — прайгравальнік. Таварышы па рабоце цёпла віншавалі свайго сябра з працоўнай перамогай.

Як хораша на душы, калі ты ўжо ў кастрычніку сустрэў новы год! Такое даступна толькі тым, хто і дня не можа пражыць без гарэння, без клопатаў аб самым дарагім — савецкім чалавеку.

**Уладзімір КОБРЫН,**
**загадчык Старобінскага раённага аддзела культуры.**

## Карысны семінар

**Нядаўна Гомельскі аддзел культуры правёў чарговы трохдзённы семінар работнікаў культуры раёна. Аб дастойнай сустрэчы 45-й гадавіны Кастрычніка зрабіў даклад загадчык аддзела тав. Руманоўскі. Сакратар райкома партыі тав. Штанза гаварыў аб задачах устаноў культуры ў цяперашні перыяд сельскагаспадарчага года.**

**Затым выступілі бібліятэчныя работнікі т. т. Майзлес, Бляхер і Прыходзька. Арганізацыя кутка перадавога вопыту, эстэтычнае выхаванне моладзі, падрыхтоўка да 80-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа — вось тэмы іх выступленняў.**

**У канцы семінара работнікі культуры пабывалі ў Сеўрукоўскім сельскім клубе. Яны прысутнічалі таксама на тэматычным вечары «Беражыце гонар хлебароба», які праводзіўся ў клубе калгаса імя XXII з'езда КПСС.**

**Сямён СЕЛЮКОЎ,**
**загадчык Касцюкоўскай сельскай бібліятэкі Гомельскага раёна.**

## ТАМ, ДЗЕ ГРЫМЕЎ БОЙ...

**11—23 ліпеня 1812 года ля вёскі Салтанаўка, якая знаходзіцца ў 12 кіламетрах ад горада Магілёва, адбылася бітва рускіх войск пад камандаваннем генерала Н. Раеўскага з корпусам французскіх войск, якім камандаваў маршал Даву.**

**Бітва пад Салтанаўкай сарвала французскаму камандаванню план знішчэння 2-й рускай арміі, якая пад камандаваннем генерала П. Баграціёна паказала маральную і баявую перавагу рускіх воінаў над напалеонаўскай арміяй.**

**У памяць славутай бітвы ў гэтыя дні ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі — на былым полі бою ля Салтанаўкі, у вёсцы Сапежынка Быхаўскага раёна, у якой знаходзіўся штаб 2-й рускай арміі, і ў вёсцы Дашкоўцы, дзе размяшчаліся рускія войскі.**

**Наш фотакарэспандэнт І. Цыганкоў сфатаграфаваў мітынг, прысвечаны ўстанаўленню мемарыяльнай дошкі ля вёскі Салтанаўка.**

## ПЛАКАТ АБ НАРОДНЫМ МАГАЗІНЕ

Добрая слава ідзе аб работніках народнага кніжнага магазіна Гомельскай абутковай фабрыкі «Праца». Усяго год, як адкрыта гэта кнігарня на прадпрыемстве, але многа ўжо зроблена па распаўсюджванню кнігі на грамадскіх асновах.

Дырэктарам магазіна працуе нарыхтоўшчыца швейна-пашывачнага цэха № 3, брыгадзір брыгады камуністычнай працы Вера Касцянкова.

Прадаўцы кнігарні, члены савета сяброў кнігі — нарыхтоўшчыца Галіна Вадалага, маладыя работніцы Зіна Каўкова, Юлія Баброва, Валя Максіменка, Вольга Іваноўская, Фаіна Ватэльбаум прадаюць кнігі ў абедзенны перапынак, перад пачаткам і пасля заканчэння змены ў цэхах.

Абласное ўпраўленне культуры выдала друкаваны плакат «Кнігу распаўсюджвае грамадскасць» аб вопыце работы народнай кнігарні.

**Р. МАРГОЛІН.**

## ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ВЫСТУПІЛА НАША ГАЗЕТА

...Усё лепшае і светлае ў нашым жыцці ствараецца працаю сумленнаю, працаю свядомаю, працаю на карысць Радзімы, — пісаў кінамеханік Столінскага раённага аддзела культуры Іван Казлякоўскі ў нашай газеце 2 кастрычніка г. г. у артыкуле «Закон нашага жыцця». У гэтым жа нумары быў змешчаны рэпартаж «Даражыць добрым імем» пра абмеркаванне артыкула Н. Р. Заглады кінамеханікамі Столінскага раёна.

Галоўнае ўпраўленне кінафікацыі і кінапракату Міністэрства культуры БССР паведаміла нам, што зараз па рэспубліцы арганізавана шырокае абмеркаванне змешчаных у нашай газеце матэрыялаў на раённых сходах работнікаў кінасеткі і прымаюцца меры па ліквідацыі недахопаў у кінаабслугоўванні насельніцтва і датэрміноваму выкананню сацыялістычных абавязацельстваў.

— Усё як у сапраўднасці!.. — з захапленнем гавораць юныя наглядальнікі выпускніку Мінскага мастацкага вучылішча Вячаславу Тумiловічу, які працуе над эцюдам.

Фота А. ШНЕЙДЗЕРА.

## ГЭТА БЫЛО НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

**«Людзі, гады, жыццё». Так назваў Ілья Эрэнбург свае ўспаміны пра тое, што давялося яму ўбачыць і перажыць, пра падзеі, у якіх ён прымаў удзел, пра людзей, з якімі так ці інакш зводзіла яго жыццё. Пісьменнік толькі што закончыў пятую — перадапошнюю кнігу ўспамінаў. У ёй расказваецца пра гады Вялікай Айчыннай вайны савецкага народа супраць германскага фашызму. Ёсць у пятай кнізе і раздзел пра падзеі і сустрэчы на беларускай зямлі ўлетку незабыўнага 1944 года.**

**Нештатны маскоўскі карэспандэнт газеты «Літаратура і мастацтва» звярнуўся да Ільі Эрэнбурга з просьбай пазнаёміць чытачоў нашай газеты з гэтым раздзелам. Пісьменнік з прыемнасцю даў нам урывак з пятай кнігі «Людзі, гады, жыццё», які мы і прапануем сёння ўвазе нашых чытачоў.**

**Ілья ЭРЭНБУРГ**

У Мінск я трапіў чацвёртага ліпеня. Танкісты напярэдадні прарваліся ў горад і адразу рушылі далей на захад. У паўднёвых кварталах яшчэ ішла страляніна. Я паглядзеў на доўгую вуліцу і ўзрадаваўся: амаль усе дамы цэлыя; праз чвэртку гадзіны пачуліся выбухі — і дамоў не стала.

Увесь дзень працавалі сапёры, выцягвалі міны, паспелі ўратаваць вялікі Дом урада, некаторыя іншыя. Аднак, ходзячы па горадзе, я ўсюды бачыў руіны. Як і ўсе, я радаваўся перамозе. За два дні да гэтага я быў у генерала Чарняхоўскага; ён мне сказаў: «Цяпер мы не гонім праціўніка — мы яго акружаем». Я ведаў, што буйныя нямецкія сілы засталіся на ўсход ад Мінска і таму было цяжка праехаць у горад — на шашу нечакана выходзілі немцы, адкрывалі мінамётны агонь. «Трапілі яны ў кацёл», — сказаў мне адзін танкіст, і я падумаў, што набліжаецца канец вайны, усміхнуўся. Але балюча было глядзець на руіны Мінска. Гэта не Ноўгарад, не Кіеў, не Ленінград. Гэта горад, які многа разоў палілі, разбуралі; у ім не было помнікаў старажытнасці, цудоўнай архітэктуры. Але бываюць хвіліны, калі забываешся пра мастацтва. Я думаў не пра эстэтычныя каштоўнасці разбураных, узарваных ці спаленых дамоў, а пра тое, што людзі працавалі, пакутвалі, будавалі і вось — друз, абгарэлыя руіны. Відовішча разбуранага жылля, раскіданых чалавечых гнёздаў пакутліва, і заўсёды ўзрушае якая-небудзь драбяза — праседжанае крэсла, сляды на ўцалелай сцяне ад карціны ці фатаграфіі, якая доўга вісела на ёй, паламаны драўляны конік.

(Год праз сем ці восем, адпраўляючыся на чарговую сесію Сусветнага Савета Міру, я затрымаўся ў Мінску — надвор'е было не лётнае. Мяне выручыў П. У. Броўка — павёз да сябе і паказаў нанава адбудаваны горад. Вядома, дамы былі напышлівымі і непрыгожымі, як усё, што будавалася ў нас у канцы саракавых гадоў, але я шчыра захапляўся: людзі жывуць, вячэраюць, спрачаюцца, раўнуюць; напэўна, вунь у той кватэры ёсць дзеці і там спакойна спіць драўляны конік).

Блукаючы па разбураным Мінску, я раптам падумаў: мне пашанцавала, хоць у Мінск я не спазніўся! Генерал Вадзімаў мне не даваў разгарнення. Аднаго разу, яшчэ ў пачатку вайны, я з ім ездзіў на фронт пад Бранск, і ён чамусьці падумаў, што я здольны на глупствы. У 1944 годзе, калі ён ужо не быў рэдактарам «Красной звезды», ён пісаў мне з фронту: «Успамінаю вас, расказваю пра тое, што з вамі немагчыма ездзіць на фронт, бо вы абавязкова хочаце быць наперадзе ўсіх, нават наперадзе баявых парадкаў». Вядома, гэта было абсалютна несправядліва, але генерал Вадзімаў унушыў сваім падначаленым, што за мною трэба наглядаць. Увосень 1943 года я быў з карэспандэнтам «Красной звезды» К. Сіманавым на Украіне і паехаў на правы бераг Дняпра. Намеснік рэдактара палкоўнік Карпаў паслаў тэлеграму члену Ваеннага савета 13-й арміі генералу Казлову (копію мне нядаўна далі): «У вас знаходзіцца Ілья Эрэнбург, у мэтах бяспекі прашу зрабіць так, каб далёка за пераправу ён не ездзіў». А вось у Мінск я дабраўся ў час; ды і потым ездзіў, куды хацеў — мне ўдалося знікнуць; у рэдакцыі не ведалі, дзе я і не было генерала Вадзімава, які, напэўна, зноў бы наладзіў пошукі.

Чарняхоўскі меў рацыю: Мінск нашы арміі акружылі, у кацёл трапіла каля ста тысяч немцаў. Нашы войскі хутка рушылі на Баранавічы, Вільнюс, а немцы, якія адыходзілі ад Магілёва, марылі прарвацца ў Мінск. На гэтым фронце немцы былі яшчэ не бітымі, і шмат якія дывізіі ўпарта супраціўляліся, наступалі, спрабуючы прарваць кальцо. Неяк я мірна вячэраў у камандзіра батальёна, маёра, у мінулым ленінградскага прафсаюзніка. Батальёну далі адпачыць пасля зацятых баёў на Бярэзіне, і маёр, частуючы мяне трафейным шампанскім, разважаў: «Фрыцы ў вас цудоўна атрымліваюцца, напэўна доўга наглядалі. А вось, скажам, калі вы раман пішаце, як вы падшукваеце, з каго пісаць? Я часта думаю, адкуль пісьменнік ведае, што ў чалавека на сэрцы. Расказваюць яму ці што? Ці даводзіцца выдумляць?..»

Я не паспеў адказаць — пачулася дроб кулямётаў: агонь адкрыў нямецкі полк, які імкнуўся прарвацца на захад.

Я з'ездзіў на захад, у Ракаў, у Івянец і, вярнуўшыся ў Мінск, зноў пачуў страляніну: акружаныя немцы напалі на хлебазавод.

Я быў на Магілёўскай шашы, калі пачалі абстрэльваць дарогу. Палонныя запэўнялі, што ў лесе батальён і там жа блукае нямецкі генерал з мінамётам і кажа: «Я — немец, а не дрэнь...». Адзін нямецкі маёр, які, памахваючы насоўкай, выйшаў з лесу на дарогу, сказаў мне: «Вядома, у дадзены момант перавага на вашым баку — Германія вымушана змагацца на двух франтах. Але вы павінны прызнаць, што танкавыя прарывы, абхваты — дасягненні нямецкай стратэгіі, вы ідзяце па нашых слядах...» Я адказаў, што я — не вайсковы, а як чалавек цывільны, з ахвотаю прызнаю прыярытэт немцаў — вайну пачалі яны і доўга да яе рыхтаваліся, але ганарыцца ім наўрад ці давядзецца.

Обер-лейтэнант у Вільнюсе на могілках Рос (там быў зборны пункт для палонных) казаў: «Я на ўсходнім фронце з самага пачатку. У сорак першым мы ішлі ўперад, не звяртаючы ўвагі, што вы застаяцеся ззаду. Цяпер усё перамянілася. Мы спрабавалі абараняць Мінск, калі вы падыходзілі ўжо да Вільні. Тут мы тры дні ўтрымлівалі некалькі дамоў, а ваш афіцэр кажа, што вы ўжо каля Нёмана. Цяпер вы ідзяце ўперад быццам нас не існуе». Ён памаўчаў і нечакана дадаў: «Я пытаю ў самога сябе, ці сапраўды мы існуем?..» Сярод барочных херувімаў і заімшэлых бюстаў цвілі чайныя ружы. Раптам пачуўся роспачны крык — смяротна параненая варона даляцела да могілак і ўпала камяком да ног нямецкага афіцэра. Ён закрыў твар рукамі і сядзеў нерухомы, як статуя.

Тацінцаў я сустракаў па дарозе ў Ліду; яны былі стомленыя да смерці. Палкоўнік Лосік расказваў, як узялі Мінск: «І мы не па дарогах ішлі — лесам, балотамі, смешна сказаць — дзе толькі заяц бегае. Калі мы трэцяга ўварваліся ў Мінск, немцаў там было больш чым нашых, але яны разгубіліся...»

Стаялі вельмі спякотныя дні. Дажджу даўно не было і густыя хмары пылу засцілалі дарогу. Сотні машын, расплюшчаных, перавернутых, затрымлівалі рух. Старшына Бяльевіч казаў: «Я то спяшаўся — у мяне ў Мінску сястрычка заставалася, Таня, семнаццаць гадоў... Забілі літаральна напярэдадні, другога чысла, суседзі бачылі...» Ён выцер рукавом твар, пот, змяшаўшыся з пылам, як бы наклаў на твар маску. «Пылюка якая!..» Потым ціха дадаў: «Калі мы ўвайшлі ў горад, адпрасіўся дадому, бег. А сястрычкі няма...» І такі быў у яго голасе смутак, што і я нічога не мог вымавіць. Да ўсяго можна прызвычаіцца: да смутку, да бяды, да адзіноты, але толькі не да чужога гора; шмат разоў я гэта адчуваў у тыя гады.

А што я бачыў на ўсёй дарозе ад Оршы да Вільнюса? Колькі руін, спаленых сёл, колькі я выслухаў жахлівых апавяданняў! У Ракаве я пайшоў да настаяцеля касцёла Ганусевіча. Ён сядзеў, стары, ціхі, сярод кантычак і вылінялых фатаграфій. Ён бачыў, як гітлераўцы падпалілі дом. У роспачы жанчына выкінула праз акно дзіця; падбег «факельшчык» і спакойна, як галавешку, падняў дзіця і кінуў у агонь. Ксёндз ківаў галавою: «Я не мог сабе ўявіць, што на зямлі ёсць такія бессардэчныя людзі. З клебаніі вывезлі старога ксяндза. Ён быў хворы, не мог хадзіць, яны яго закатавалі. У Дорах сабралі ўсіх у праваслаўную царкву і спалілі. У Першай забілі двух ксяндзоў. У пісанні сказана: «Ён адкрывае глыбокае з асяроддзя цемры і выводзіць на святло цень смяротны, памнажае народы і знішчае іх, рассейвае народы і збірае іх, адбірае розум у галоў народаў, і пакідае іх блукаць у пустэльні, дзе няма дарогі». Я — стары чалавек, але як будуць жыць пасля гэтага маладыя?..»

Я начаваў у артылерыстаў. Яны пілі дрэнны венгерскі ром. Усе пачалі марыць пра будучыню. Раптам капітан Сяргееў сказаў: «Пісьмо прыйшло ад жонкі Яблачкіна, піша, што ёй цяпер няма чаго жыць — засталася яна адна, хоча развітацца з таварышамі Пашы...» Усе прыціхлі; неўзабаве заснулі. Мне не спалася. Я ўстаў, праціснуўся да газоўкі і запісаў у кніжачку словы старога ксяндза.

На другі дзень, вярнуўшыся ў Мінск і праехаўшы па Магілёўскай шашы, я ўгледзеў Трасцянец. Там закопвалі ў зямлю яўрэяў — мінскіх і прывезеных з Прагі, Вены. Асуджаных прывозілі ў душагубках (машыны, у якіх душылі людзей газам, гітлераўцы называлі «геваген»; машыны ўдасканалілі — кузаў абарочваўся, скідаючы целы задушаных; новыя машыны называліся «гекніцваген»). Незадоўга да разгрому нямецкае камандаванне загадала выкапаць трупы, абліць гаручым і спаліць. Усюды віднеліся абвугленыя косці. Уцякаючы, гітлераўцы хацелі спаліць апошнюю партыю забітых імі: трупы былі складзены, як дровы. Я ўгледзеў абвугленыя жаночыя целы, маленькую дзяўчынку, сотні трупаў. Непадалёк валяліся дамскія рыдыкюлі, дзіцячы абутак, дакументы. Я тады яшчэ не ведаў ні пра Майданек, ні пра Трэмблінке, ні пра Асвенцім. Я стаяў і не мог скрануцца з месца, марна вадзіцель клікаў мяне. Цяжка пра гэта пісаць — няма слоў.

Нашы салдаты, якія штурмавалі на Магілёўскай шашы акружаных немцаў, бачылі Трасцянец. Здаецца, нідзе вайна не была такой лютай. Увечары абапал шашы валяліся трупы ворагаў. Спякота не спадала і стаяў вялікі смурод.

Я гаварыў з камандуючым пяхотнай дывізіі генерал-лейтэнантам Окснерам. Калі яго ўзялі ў палон, ён быў апрануты як салдат. А праз гадзіну паказаў пасведчанне і запатрабаваў, каб яго паслалі ў лагер для афіцэраў. У адрозненне ад іншых палонных ён не сказаў, што ідэі, якія натхняюць рэйхсвер, трывалыя і рана ці позна перамогуць. Я спытаў у яго пра Трасцянец. Ён адказаў: «Чаму вы ў мяне пра гэта пытаеце? Я асабіста дзяцей не забіваў. Мы прайгралі бітву, а на пераможаных усё валяць. Нямецкая армія заўсёды адрознівалася дысцыплінаванасцю, і я выхоўваў маіх салдат у духу гонару...» — А чаму вы пераапрануліся? — «Не хацеў ганьбіць звання — нямецкія генералы не здаюцца». Ён з асалодаю выкурыў цыгарэту і сказаў: «Мы апынуліся ў становішчы маленькага народа — супраць нас вялізныя дзяржавы — Расія і Амерыка. Гэта паядынак Давіда з двума Галіяфамі...» У яго быў прыстойны выгляд прафесара-гуманіста. Потым я сустрэў яго імя ў спісе ваенных злачынцаў.

Іншыя генералы трымалі сябе больш асцярожна. Камандуючы корпуса генерал Гельвіцэр з пашанай пазіраў на маладога Чарняхоўскага. Іван Данілавіч сказаў з усмешкай: «Ля Варонежа вы ваявалі лепш...» Гельвіцэр адказаў: «Усё, што адбылося, ляжыць не на арміі, а на Гітлеры, ён не слухаў вопытных генералаў, а акружыў сябе выскачкамі...» Гельвіцэр падпісаў зварот, які праз два тыдні быў надрукаваны ў савецкіх газетах, група нямецкіх генералаў выступіла супраць фюрэра. Праўда, гэта было зроблена ў палоне, але

